*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 45(101) ◈ 11 лістапада 1992 г. ◈ Кошт 1 рубель (Па падпісцы — 10 кап.)



## ПОСТУП ТЫДНЯ

***ЗАКОНЧЫЎСЯ ВІЗІТ ДЗЯРЖАЎНАЙ ДЭЛЕГАЦЫІ БЕЛАРУСІ Ў ФІНЛЯНДЫЮ,** дзе было падпісана пагадненне аб садзейнічанні ў ажыццяўленні і ўзаемнай абароне інвестыцый.*

**У СУВЯЗІ З ВЫХАДАМ КРАІН БАЛТЫІ, УКРАІНЫ З РУБЛЕВАЙ ЗОНЫ,** з мэтай абароны спажывецкага рынку Рэспублікі Беларусь, пачынаючы з 10 лістапада 1992 года, усе харчовыя тавары, уключаючы тытунёвыя і вінна-гарэлачныя вырабы, на прадпрыемствах рознічнага гандлю ўсіх форм уласнасці прадаюцца толькі за разліковыя білеты нацыянальнага банка.

***ЖУРЫ КОНКУРСУ ПА СТВАРЭННІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ГІМНА БЕЛАРУСІ ПРЫНЯЛО РАШЭННЕ ПРАДОЎЖЫЦЬ ТЭРМІН ПАДАЧЫ ЗАЯВАК НА ЎДЗЕЛ У КОНКУРСЕ ДА 1 СНЕЖНЯ ГЭТАГА ГОДА.***

**МІНІСТЭРСТВА СУВЯЗІ МІЛЬЁННЫМІ НАКЛАДАМІ ЎПЕРШЫНЮ ВЫПУСЦІЛА ЦАЛКАМ БЕЛАРУСКАМОЎНЫЯ ВІНШАВАЛЬНЫЯ ПАШТОЎКІ ДА РОЗНЫХ НАГОД.**

***ЗАКОНЧЫЎСЯ ДРУГІ МІЖНАРОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ «АДРАДЖЭННЕ БЕЛАРУСКАЙ КАПЭЛЫ»,** які праходзіў у двух залах Менскай філармоніі.*

**Туга па былой імперыі — хвароба працяглая** Стар. 2

***Цяпер яшчэ і «Ватра»!** Стар. 3*

**Старшыня Інбелкульта** Стар. 4

# НАПОЎНІЦЬ СУВЕРЭНІТЭТ РЭАЛЬНЫМ ЗМЕСТАМ

*У Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь сустрэліся прадстаўнікі самых розных перыядычных выданняў. Гутарку вёў міністр інфармацыі Анатоль Бутэвіч. Цікава, што субяседнікаў пяднала не толькі трывога за выжыванне ўласных газет, а і праблемы беларускага Адраджэння.*

*Таму міністр наступным чынам ахарактарызаваў галоўны змест гаворкі: «Роля сродкаў масавай інфармацыі ў справе нацыянальнага Адраджэння, ва ўсталяванні дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі».*

◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆

Прамоўца, у прыватнасці, адзначыў, што сёння ў рэспубліцы зарэгістравана 604 газеты і часопісы, але пабеларуску выдаецца ўсяго 140.

Было адзначана, што станаўленне беларускай дзяржаўнасці ідзе няпроста. Трэба працаваць і працаваць, каб напоўніць наш нацыянальны суверэнітэт рэальным зместам. Сродкі масавай інфармацыі рэспублікі здольны на большае, чым гэта яны робяць сёння. Міністр інфармацыі параўнаў журналістаў з хірургамі.

— У нас — вострая зброя, як у хірурга скальпель. І не дай Бог працаваць не на кансалідацыю... Нас павінен аб'ядноўваць агульны інтарэс — усе павінны быць грамадзянамі. Мы перш за ўсё — з аднае дзяржавы.

Зразумела, што на сустрэчы не засталася па-за ўвагай моўная сітуацыя на Беларусі. А. Бутэвіч, у прыватнасці, падкрэсліў, што абвяшчэнне дзяржаўнага суверэнітэту ўжо само па сабе пазбаўляе падстаў выступаць супраць дзяржаўнага аднамоўя. Тым больш, што менавіта рускай мове сёння ў нас нішто не пагражае. Дзяржаўная мова павінна быць адна: не можа ў чалавека існаваць двух маці.

Друк часам уступае ў супярэчнасць з Законам аб мовах. Многія выданні шукаюць аргументы для ўвядзення двухмоўя. Таму міністр і даследаваў пытанне: «Які ж прыклад падае прэса ў справе выканання Закона?» Прамоўца падкрэсліў, што можна прывесці публікацыі, дзе родная мова вызначаецца як дыялект. Хіба ж гэта не абраза?! Ствараецца ўражанне, што асобныя журналісты імкнуцца давесці да чытача думку: з цягам часу, маўляў, беларусізацыя зачыніць для некага дзверы на Беларусі. І калі ёсць у кагосьці свядомая мэта распаліць варожасць, то робіцца зразумелым на каго, на якія ідэі працуюць пэўныя публікацыі...

Ад Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны ў сустрэчы ўдзельнічаў В. Вільтоўскі. Ён заўважыў, што многія выданні канкрэтную працу па выкананні Закона аб мовах падмяняюць пустымі развагамі. На жаль, амаль нідзе не друкуюцца практычныя ўрокі роднай мовы. Праўда, апошнім часам гэты прабел імкнецца запоўніць газета «Наша слова». Зайшла гаворка і пра газету «Во славу Родины», дзе для тых, хто жадае вывучаць беларускую мову, друкуецца тэматычная старонка «Паходня».

Наступны аспект праблем, закранутых на сустрэчы — публікацыі, звязаныя з дзяржаўнай сімволікай. Падкрэслівалася, што ў сродках масавай інфармацыі назіраецца непрыняцце дзяржаўнай сімволікі. Што ўжо тут казаць аб нейкай павазе да Беларусі ў сусветнай прасторы?.. Праўда, ёсць газеты, якія з нумара ў нумар вядджаюць гістарычную свядомасць беларусаў. Сярод такіх выданняў міністр інфармацыі назваў «Культуру», «Літаратуру і мастацтва», «Чырвоную змену», «Настаўніцкую газету»...

А. Бутэвіч звярнуў увагу прысутных, што ў беларускім друку дагэтуль прысутнічае настальгія па СССР.

У выступленні міністра і астатніх удзельнікаў сустрэчы закранаалася і тэма культуры палемікі. «Давайце паважаць у праціўніку чалавека, а ў спрэчках выкладаць толькі факты»,— прапанаваў міністр.

Удзельнікам паведамілі, што Міністэрства інфармацыі плануе ў хуткім часе правесці нараду-семінар па тут ужо абмеркаваных праблемах, куды, відаць, запросяць прадстаўнікоў усіх перыядычных выданняў. Задума, безумоўна, слушная. Добра было б, каб гаворка не скацілася да ўказанняў, як і што пісаць.

А. КАРЛЮКЕВІЧ.



НА ЗДЫМКУ: народны дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь паэт А. Вярцінскі і міністр інфармацыі А. Бутэвіч.

Фота Лявона ДУБАНЕВІЧА.

ЧЫМ НА КІЁСКІ СПАДЗЯВАЦЦА, ЛЕПШ НА ГАЗЕТУ ПАДПІСАЦЦА!

Да 15 лістапада працягнута падпіска на рэспубліканскія газеты і часопісы, у тым ліку і на «Наша слова». Напамінаем, індэкс «Нашага слова»: 63865. Кошт падпіскі на паўгоддзе: 21 рубель.

**WIS**

На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь за закрытымі дзвярыма абмеркаваны ў першым чытанні праект ваеннай дактрыны. На кароткай прэс-канферэнцыі старшыня пастаяннай камісіі Мечыслаў Грыб паведаміў журналістам, што перад народнымі дэпутатамі з асноўным дакладам выступіў міністр абароны Рэспублікі Беларусь Павел Казлоўскі. У сваім выступленні ён падкрэсліў, што праект дактрыны, падрыхтаваны Міністэрствам абароны РБ, улічвае сённяшні стан нашай дзяржавы і адкладаць яго прыняцце нельга, бо гэта стрымае ўвядзенне ў дзеянне іншых законаў ваеннага накірунку. Павел Казлоўскі адказаў на шматлікія пытанні народных дэпутатаў. Нягледзячы на тое, што праект ваеннай дактрыны не вельмі моцна крытыкаваўся, ён з першага галасавання не быў прыняты.

* * *

1 і 2 лістапада ў Беларусі з афіцыйным візітам знаходзіўся Генеральны сакратар НАТА доктар Манфрэд Вёрнер. Ён быў прыняты Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславам Шушкевічам. Адбылася саракапяцімінутная размова за закрытымі дзвярыма.

У выступленні перад журналістамі Генеральны сакратар НАТА сказаў, што Беларусь, якая стала незалежнай дзяржавай, на Захадзе ўспрымаецца як раўнапраўны партнёр у шматгранназ міжнароднай дзейнасці. М. Вёрнер заявіў, што ён ад'язджае з нашай краіны ўпэўненым у добрыя перспектывы развіцця ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва.

Станіслаў Шушкевіч адзначыў, што ён інфармаваў лідэра НАТА аб тым, што Беларусь цвёрда прытрымліваецца статуса нейтральнай, без'ядзернай дзяржавы.

Адбыліся сустрэчы Генеральнага сакратара НАТА з намеснікам старшыні Савета Міністраў рэспублікі Станіславам Брылём, міністрам замежных спраў Пятром Краўчанкам, міністрам абароны РБ Паўлам Казлоўскім.

*Ґорас МАККОЙ*

# БЫВАЙ, ЖЫЦЦЁ, БЫВАЙ, КАХАННЕ!

*(Працяг. Пачатак у №№ 32—44).*

## IV

Цяпер яна прыехала на машыне маркі «Тальбот». Гэта быў вельмі доўгі, нізкі, чорны аўтамабіль з сядзеннямі з чырвонай скуры. Я адразу ж здагадаўся, чыя гэта машына, яшчэ не зірнуўшы на нумар.

Лекцыя закончылася праз некалькі хвілін, і, нарэшце, я зноў убачыў яе белы твар і чорныя валасы. У мяне ажно дыханне перахапіла...

— Ты што, мяняеш машыны штодня? — спытаўся я, калі мы сядалі ў машыну.

— Амаль што, — адказала яна, паварочваючы ключ запальвання.

— Як лекцыя?

— Як звычайна. А як твае справы!

— Усё выдатна. Пакуль яшчэ нічога дакладнага, але перспектывы адмысловыя.

— Я рада за цябе. Дарэчы, у цябе ёсць якія-небудзь планы на сённяшні вечар?

— Толькі адзін — прабавіць яго з табою, — адказаў я.

— Я хацела б паехаць куды-небудзь, дзе мы змаглі б пагаварыць. Толькі пагаварыць... Дык куды мы паедзем?

— Няважна куды — абы не за горад.

— А я думала, ты любіш бываць за горадам.

— Я любіў там бываць, але пасля ўчарашняй ночы — не. Я бог ведае колькі часу чысціў дома касцюм...

— Наступным разам,— з хітрынкаю зірнула яна на мяне,— я прыхаплю з сабою коўдру.

Усё адбылося так хутка, што я нават не паспеў здзівіцца. Мы ехалі па вуліцы з даволі інтэнсіўным рухам, і тут раптам яна выехала на тратуар і збочыла ўніз да рампы, якая вяла да падземнага гаража. Я ўбачыў два рады шыкоўных машын. Два чалавекі ў ліўрэях выцягнуліся ў фрунт, і Маргарэт спыніла свой «Талбот» паміж імі.

— Добры вечар, пан,— сказаў чалавек злева.

— Добры вечар, панна Добсан,— нахіліў галаву чалавек справа.

— Добры вечар,— кінула Маргарэт.

Той, што быў з яе боку, адчыніў дзверцы і, як толькі яна выйшла, накіраваўся да ліфта; але другі, з майго боку, застыў: адчыніўшы дзверцы, ён утупіўся ў мяне. Спярша я падумаў, што ён пазнаў мяне, але неўзабаве зразумеў, што яго здзівіў не мой твар, а адзежа... Нарэшце да мяне дайшло, што ён не здзіўлены, а шакіраваны: такі абарванец у гэткім шыкоўным гаражы, разам з такой дзяўчынаю, як Маргарэт! Чырвоны ад сораму, я пайшоў да ліфта.

— Дабранач, панна Добсан,— сказаў ёй чалавек.

— Добры вечар, панна Добсан,— сказаў ліфцёр.

Калі дзверы ліфта зачыняліся, я насмеліўся ўзняць вочы і ўбачыў: у гэтага чалавека твар таксама выцягнуўся ад здзіўлення.

Я адступіў у глыб кабіны, за ліфцёрам, стараючыся быць як мага больш непрыкметным. Ліфцёр, пажылы чалавек, быў таксама ў белай ліўрэі. На чацвёртым паверсе ён спыніў ліфт і, калі мы выходзілі, сказаў.

— Дабранач, панна Добсан.

— Дабранач,— адказала яна, і я імкліва выйшаў услед за ёю, спінаю да ліфцёра, каб менш яго шакіраваць. Дзверы зачыніліся, і ліфт паехаў уніз. Зараз гэтыя лёкаі нагамоняцца пра жабрака, якога падабрала недзе панна Добсан...

— А я думаў, што ты жывеш на Вярбовых прысадах,— сказаў я.

— Чаму ты так вырашыў?

— Прачытаў, пакуль чакаў цябе, адрас пад нумарам на машыне.

— Я жыву то там, то тут.

— Шыкоўна. Звышшыкоўна. Я заўсёды распазнаю шыкоўныя месцы па шакіраваных тварах слуг, калі яны мяне бачаць. Чым больш шыкоўнае месца, тым больш яны шакіраваныя.

Яна засмяялася.

Мы ўвайшлі ў невялікую вітальню.

— Пакладзі капялюш вунь там,— сказала яна.

Я паклаў капялюш на столік, паглядзеў на сябе ў люстра на сцяне і адразу ж яшчэ больш выразна зразумеў збянтэжанасць лёкаяў: мой касцюм не пасаваў мне ні колерам, ні фасонам, быў не майго памеру, не кажучы ўжо пра тое, што ён не быў адпрасаваны, кашуля таксама была пакамечаная ды яшчэ і амаль брудная, гальштук быў завязаны блага — ды такі танны гальштук лепш і не завяжаш... Да таго ж, я быў дрэнна падстрыжаны, а твар мой быў зусім схуднелы. Нічога дзіўнага, што гэтыя лёкаі збянтэжыліся. Цяпер я сам быў збянтэжаны. У мяне быў выгляд самага сапраўднага бадзягі, а ў такім месцы, як гэтае, ён проста біў па вачах. Аднаго я не мог зразумець: як дзяўчына такога ўзроўню не заўважала гэтага.

Мы прайшлі ў гасцёўню.

— Хочаш чаго-небудзь выпіць? — спыталася Маргарэт.

Чатыры шкляныя паліцы бара за прылаўкам поўніліся самымі рознымі напоямі.

— Віскі? — запыталася яна, прайшоўшы за прылавак.

— Лепш каньяку...

— А я люблю кактэйлі.— Яна паставіла перада мною бутэльку французскага каньяку і шклянку, а сабе зрабіла кактэйль.

Мы выпілі, яна выйшла з-за прылаўка і села ў фатэль, ля сцяны. Я павярнуўся на сваім сядзенні да яе тварам. Пацягваючы кактэйль, яна аглядвала мяне з галавы да ног, усё роўна як я быў нейкай цікавай жывёлінай. Я адвярнуўся, выпіў яшчэ каньяку, але калі зноў павярнуўся да яе, то ўбачыў усё тое ж самае.

— Дык што ты задумала? — спытаўся я.— Сацыяльны эксперымент? Ці сеанс Касмічнай Свядомасці?

— Пра што ты?

— Пра нас,— сказаў я спакойна.— Навошта ты прывяла сюды такога жабрака, як я?

— Навошта я прывяла цябе сюды? Гэта мая кватэра. Я хацела, каб ты пабыў тут.

— А цябе не хвалюе, што могуць падумаць пра тваіх гасцей твае слугі?

— А чаму гэта павінна мяне хваляваць? Гэта *мае* госці...

— Але думаю, што са мною ты пабіла ўсе свае ранейшыя рэкорды. Я перакананы, што ты ніколі яшчэ не запрашала сюды такога тыпа, як я.

— А што ты за тып?

— Ты ўсё цудоўна бачыш,— усміхнуўся я.— Села ў фатэль і разглядваеш мяне...

Яна ўзнялася і падышла да мяне:

— Я зусім не збіралася разглядваць цябе. Калі я зрабіла табе балюча, даруй мне. Я проста глядзела на цябе. Ты хоць разумееш, што я першы раз бачу цябе па-сапраўднаму? І табе не здаецца, што пасля таго, што здарылася паміж намі, я маю права ведаць, які ты з выгляду?

— Тады добра — цяпер вы цудоўна ведаеце, які я з выгляду. І ты, і твае слугі. І ў мікраскоп не трэба разглядваць.

— Ах вось які ты...— крыху разгубілася яна.

— Я цябе ўчора папярэдзіў: комплексы...

— Раз ты ведаеш прычыну, то павінен выпраўляць у сабе недахопы.

— Я буду іх выпраўляць, калі не буду змушаны хадзіць у гэтым рыззі,— ужо раззлаваны, адказаў я.

— А ты не вельмі ветлівы са мною,— крыху адсунулася яна ад мяне.— Давай проста пагаворым — як сябры. Мне так багата пра што ёсць з табою пагаварыць!.. Табе дрэнна тут?

— Дрэнна.

— Хочацца пайсці адсюль зараз?

— Але, мне лепш пайсці адсюль зараз,— сказаў я, устаючы з сядзення.

— Мне так сумна гэта чуць...

— Не думай пра гэта...

— Мне вельмі сумна, што сёння ў нас не так, як учора...

— Мне таксама.

— Вядома, сёння гэта немагчыма... Тое хваляванне, што ахапіла нас учора, можа вынікнуць толькі з боскае волі. Учора нас звёў лёс. А сёння — я.— Яна сумна ўсміхнулася.— І з лёсам я спаборнічаць няздатная. На жаль, я не чараўніца.— Яна падняла сваю шклянку.— Давай вып'ем у апошні раз. За маё здароўе. За здароўе чараўніцы-вучаніцы...

І тут раптам я зразумеў, што гаворыць яна неверагодна шчыра. Учора яна аддалася мне зусім не ад простага жадання, але таму, што ўбачыла ў маіх відавочна дзіўных паводзінах нейкую атавістычную патаемнасць. І нарэшце я адчуў, што дрыжу. Не ад таго, што ўзнерваваўся, а таму, што зрабіў дзіўнае адкрыццё: я раптам зразумеў, што наша ўчарашняя блізкасць — зусім не просты фізічны акт, што *для нас абаіх яна была нейкім найстаражытнейшым рытуалам...*

Я ўстаў і выключыў святло, потым вярнуўся да Маргарэт. Слабае святло, якое пранікала з вітальні, дазваляла мне разгледзець яе сілуэт і контуры бара. Я наблізіўся да яе і застыў усё роўна як у каталептычным здранцвенні, сціснуўшы кулакі, затрымаўшы дыханне,— як яна ўчора па маёй просьбе, застыў у адчайнай спробе ўвабраць з Маргарэт яе ўчарашнія пачуцці...

І раптам мяне ўсяго абдала пахам «Нуэль дэ Ночэ»...

Пачуццё блізкае небяспекі перарвала мой сон. Я адчуў варожы пах, адчуў, што нада мною нехта стаіць, і расплюшчыў вочы, шукаючы крэсла, на якім застаўся мой пінжак з рэвальверам у кішэні. Раптам запалілася лямпа каля ложка, і я ўбачыў чалавека гадоў шасцідзесяці, імпазантнага арыстакрата, лысага, у шыкоўным блакітным касцюме і з гальштукам-матыльком. Ён трос Маргарэт, не зважаючы на мяне. Адчуванне ў мяне было такое, што мне з усяе сілы заехалі ў морду. Нарэшце, выгледзеўшы крэсла, на якім ляжаў мой пінжак, я высунуў ногі з-пад коўдры, збіраючыся кінуцца да рэвальвера.

— Спакайней, сынок,— пачуў я чыйсьці голас.

Каля дзвярэй стаялі два мужчыны, па ўсім было відаць, выжлы. Яны былі ў цывільным, але выжлаў я ў іх умомант разгледзеў. Пакуль што яны стаялі нерухома і назіралі.

— Мідж, дарагая, Мідж,— гаварыў лысы чалавек, і я зразумеў, што гэта быў, бадай, яе бацька.— Мідж, дарагая,— усё паўтараў і паўтараў ён.

Маргарэт усё ніяк не магла прачнуцца і мармытала нешта зусім неразборлівае. Нарэшце яна расплюшчыла вочы і ўбачыла гэтага чалавека. Яна хутка села, падцягнуўшы ўверх коўдру, збянтэжана зірнула на мяне. Але замяшанне яе доўжылася нядоўга, ужо праз некалькі імгненняў яна ўзяла сябе ў рукі.

— Табе не трэба было рабіць гэтага,— сказала яна, потым узяла халат.

— Надзень яго,— сказаў ён і звярнуўся да выжлаў: — Выведзіце гэтага чалавека.

Яны рушылі ўперад.

— Будзе лепш, калі ты скажаш ім заставацца там, дзе яны былі,— сказала спакойна Маргарэт.

Выжлы па-ранейшаму ішлі на мяне, гледзячы на старога Добсана.

— Выведзіце яго,— паўтарыў ён.

Яны спыніліся ля мяне, і я зрабіў выгляд, што ўстаю.

— Чакайце,— сказала ім Маргарэт, затым павярнулася да бацькі: — Гэта смешна, тата! Дазволь мне пазнаёміць цябе з маім мужам, Полем Мэрфі... Гэта мой бацька, Поль,— сказала яна мне.

«Божа літасцівы! — падумаў я.— Які муж?..»

У Эзры Добсана ажно сківіца адвісла. Ён утупіўся ў мяне, вочы ў яго звузіліся:

— Мужам?.. Вы жанатыя?.. З якога часу?

— З вечара,— адказала яна.— Мы растлумачым табе ўсё за сняданкам, але...

— Божа мой! Божа мой! — шаптаў стары згаслым голасам, і я зразумеў, што ёй удалося падмяць яго пад сябе.

Я пачаў адчуваць сябе лепш. Я яшчэ не прадбачыў, куды ўсё гэта нас завядзе, але яна дала мне крыху часу, каб падумаць.

— Будзь ласкавы, скажы ім, каб яны выйшлі,— папрасіла Маргарэт бацьку.

Ён павярнуўся да выжлаў і даў ім знак. Яны паціснулі плячыма і выйшлі.

— Сапраўды, тата,— распачала Маргарэт,— ты часам такое можаш вытварыць... Поль цяпер няйначай думае, у якую ж сямейку ён трапіў...

Яна наўмысна — бацька ж не зводзіў з мяне вачэй — крыху вінавата ўсміхнулася мне, быццам прасіла прабачэння. Прыдуманую знячэўку ролю яна выконвала ідэальна...

— Вядома, мы зрабілі ўсё не лепшым чынам,— сказала яна.— Трэба было пачакаць. Мы рабілі ўсё імпульсіўна, безразважна, у мяне ажно галава кружыцца, але што б ты ні зрабіў, нічога ўжо не зменіцца.

У старога выпаў з рук даччын халат. Ён ступіў крок назад і зноў утупіўся ў мяне.

— Не папракайце Поля,— сказала яна.— Гэта ўсё я...

— Хто, апрача вас, у курсе? — спытаўся стары.

— Сакратар, суддзя,— пачала яна.

— І жонка суддзі,— дадаў я.— Яна была ў нас сведкаю.

— Калі вы гэта зрабілі?

— Некалькі гадзін назад.

— Дзе?

У суседнім штаце.

— Яны ведаюць, хто ты?

— Не думаю.

— Але растлумачце мне, навошта трэба было распісвацца ў суседнім штаце?

— Мы не маглі чакаць тыя тры дні, што абавязковыя ў нас,— адказала яна.

— Тры дні! Што такое тры дні, калі гаворка ідзе пра жаніцьбу?!. Ты даўно ведаеш гэтага чалавека?

— Прашу цябе, тата, не трэба. Усё гэта Полю чуць не надта лёгка. Я табе ўжо сказала, што мы былі безразважныя і што ў мяне ажно галава кружыцца. Давай пагаворым раніцай. Тады мы ўсё табе растлумачым...

— Добра,— згадзіўся ён,— пагаворым пра гэта раніцай. Але пакуль што ты пойдзеш са мною. Адзявайся.

— Ты зноў не маеш рацыі, тата.— запярэчыла яна.— Я не пайду з табою.

— Ты пойдзеш са мною, альбо я паклічу зараз Зумбро і Скота, і яны вынесуць цябе адсюль! Адзявайся!

— Тата, ты робіш зусім не тое, што трэба!

Здзіўлены, я паглядзеў на яе: бацька ж даваў нам, бадай, нейлепшую магчымасць выкруціцца. Няўжо яна гэтага не разумее? Калі яна пачне з ім сварыцца, хто ведае, чым усё гэта закончыцца?

— Я думаю, твой бацька мае рацыю,— сказаў я.— Ідзі з ім. Пагаворым пра ўсё раніцай.

Яна кінула на мяне пагардлівы позірк.

*(Працяг будзе).*

# Глыбока смуткуем: памёр Міхась Ткачоў



31 кастрычніка на 51-ым годзе жыцця, у самым росквіце творчых сіл пакінуў гэты свет адданы, ахвярны сын нашай Айчыны, вядомы вучоны і палітычны дзеяч, адзін з тых волатаў, хто пачынаў новае беларускае Адраджэнне, былы кіраўнік гродзенскага таварыства «Паходня», адзін з заснавальнікаў «Мартыралога Беларусі» і Беларускага Народнага Фронту, а затым Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады, старшынёй якой і быў абраны.

Памёр Міхась Ткачоў. Нечаканая, балючая вестка, заўчасная, несправядлівая смерць. Доктар гістарычных навук, прафесар, аўтар выдатных, так патрэбных сёння кніг і артыкулаў пра мінулае роднай Беларусі. Высокі і мажны, спакойны і разважлівы, мудры і добры, інтэлігентны чалавек, побач з якім больш упэўненымі і дужэйшымі рабіліся ягоныя сябры і паплечнікі, супрацоўнікі, усе, хто імкнецца да праўды, да ідэалаў сацыяльнай справядлівасці. Побач з ім мізарнелі і цішэлі, рабіліся нязначнымі і нястрашнымі ягоныя нядобразычліўцы. Асоб такога маштабу гісторыя і лёс дораць кожнай нацыі адзінкамі.

Пакінуў нас Міхась Ткачоў, каб застацца назаўсёды ў гісторыі Беларусі і нашай удзячнай памяці.

**Лісты жальбы даслалі ў рэдакцыю ад імя Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» *Зянон ПАЗЬНЯК;***
**ад імя Выканкама Цэнтральнай Рады Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады *Алег ТРУСАЎ;***
**ад імя сяброў клуба «Спадчына» *Анатоль БЕЛЫ;***
**ад імя сяброў Беларуска-амерыканскага задзіночання, Культурна-асветніцкага цэнтра «Полацак», рэдакцыі часопіса «Полацак», парафіян Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Жыровіцкай Божай Маці (Кліўленд, штат Агаё) *Янка ХАНЕНКА, Сяргей КАРНІЛОВІЧ, Святлана БЕЛАЯ, Міхась БЕЛЯМУК, айцец Міхась СТРАПКО.***

**Супрацоўнікі рэдакцыі газеты «Наша слова» і Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны таксама глыбока смуткуюць з нагоды смерці Міхася Ткачова і выказваюць свае спачуванні родным і блізкім нябожчыка.**

# *Да ўвагі ўдзельнікаў віктарыны «Старадаўняя Беларусь»*

*Як ужо адзначалася, пры падвядзенні вынікаў віктарыны, пасля вызначэння пятнаццаці пераможцаў высветлілася, што значная частка яе ўдзельнікаў прыслала ў рэдакцыю свае адказы на прапанаваныя ў трох турах пытанні, якія таксама з'яўляюцца правільнымі ці да правільных набліжаюцца.*

*Удзельнікі віктарыны, адказы якіх заслугоўваюць станоўчай ацэнкі:*

Наталля БЕЛЬСКАЯ, г. Салігорск;
БЫСТРАНЬКОЎ (імя не паведаміў), г. Гомель;
Віктар ВАНЦЛАЎ, г. Маладзечна;
Гурток «Юныя этнографы» станцыі юных турыстаў, г. Ваўкавыск;
Ірына КАШТАЛЯН, г. Менск;
Алена КОСМАЧ, в. Заскавічы Маладзечанскага раёна;
Ганна МАСЛЮК, в. Заскавічы Маладзечанскага раёна;
Кацярына ПАДЦЯРОБ, в. Турэц-Баяры Маладзечанскага раёна;
Алег ПЛІСКО, г. Маладзечна;
А. РАБУШКІН, г. Гродна;
Аляксандра СКАРАБАГАТАВА, в. Турэц-Баяры Маладзечанскага раёна;
Вольга ЦЯСЭВІЧ, г. Менск.
Наталля ШЫМАН, в. Турэц-Баяры Маладзечанскага раёна.

Паведамляем, што ў бліжэйшы час за актыўны ўдзел у віктарыне «Старадаўняя Беларусь» усе яны будуць заахвочаны Таварыствам беларускай мовы імя Ф. Скарыны.

М. В.

Слушыў у аднаго пана ляснік. Добра слушыў, верай і праўдай.
Расчуліўся аднойчы пан і кажа:
– Люблю я цябе, верны мой слуга. Буду шанаваць цябе да самай тваей смерці.
– Э, пане, не крыўдуй, але панская ласка, жончын язык ды пасынкава любоў да айчыма – аднаго варты.
Не паверыў пан. Паспрачаліся яны.
Украў ляснік у пана гуся.
Даў жонцы зварыць ды наказаў, каб нікому не расказвала.

ПАНСКАЯ ЛАСКА. Л. Ш. 92
БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ КАЗКА

Назаўтра жонка не вытрымала і расказала куме. Тая – суседцы. І пайшла навіна па сялу.
Даведаўся пан.
Раззлаваўся пан і вырашыў лесніка павесіць. Папрасіўся ляснік схадзіць дахаты, грошы падзяліць жонцы і пасынку.
Згадзіўся пан, але сам з лесніком пайшоў.
Падзяліў ляснік золата на тры кучы:
– Гэта жонцы, гэта пасынку, а трэцяя таму, хто мяне вешаць будзе.
А пасынак кажа:
– Нашто, бацька, грошы чужому аддаваць? Давай іх мне, я цябе павешу!
Глянуў ляснік на пана і кажа:
– Ну што, пане, чыя праўда? Вось якая твая ласка!

# Народная лякарня

Існуе некалькі спосабаў увядзення пчалінага яду ў арганізм. Класічны і самы эфектыўны — праз уджаленне пчалы. Іншыя метады: уціранне мазяў, ін'екцыі (уколы), інгаляцыі, электрафарэз, ультрагук, прыём таблетак пад язык.

*Прыкладная схема лячэння ўджаленнем пчалы.* У першы дзень хворага джаліць адна пчала. Затым у кожны наступны дзень дабаўляецца па пчале. Так працягваецца 10 дзён, пасля чаго робіцца перапынак на 3—4 дні, і курс паўтараецца, толькі пчол бярэцца ў тры разы больш. Усяго за два курсы хворага павінна ўджаліць 180—200 пчол. Калі пасля гэтага чалавек не выздаравее і не палепшыцца яго стан, лячэнне пчаліным ядам неабходна спыніць.

Выбар месца для ўджалення залежыць ад характару захворвання. Напрыклад, пры гіпертаніі пчол прыкладваюць за вушамі і да паясніцы. Пры захворванні вачэй пчол саджаюць на віскі, пры язвах і ранах іх саджаюць у сантыметрах пяці ад краю хворага месца і г. д.

Найчасцей пчол для ўджалення прыкладваюць да плячэй і сцёгнаў, штодзённа мяняючы месца.

Пры выкарыстанні гатовых прэпаратаў лячэнне пачынаюць таксама з малых доз. Уколы робяць проста ў хворыя суставы або ў так званыя болевыя кропкі.

Перад уціраннем мазі хворае месца абмываюць цёплай вадой з мылам і робяць гарачы кампрэс. 2—3 г мазі ўціраюць чыстай рукой 2—3 мінуты. Працэдура праводзіцца два разы на дзень. Курс лячэння — 2—3 тыдні.

Інгаляцыя — просты і эфектыўны спосаб лячэння бранхіяльнай астмы. Разам з парай гарачай вады ўдыхаецца пара пчалінага яду.

Пры лячэнні *электрафарэзам* (і *іонафарэзам*) скарыстоўваецца дзесяціпрацэнтны водна-спіртавы раствор пчалінага яду, якім змочваюцца марлевыя сурвэткі для электродаў. Плошча электродаў павінна быць 200—300 см $^2$, сіла току 12—20 ампер, працягласць працэдуры 20—30 мінут, колькасць працэдур 15—20. У першыя два дні лячэння паліваюць на марлевыя пракладкі па 5 мл раствору, затым колькасць яду ў растворы павялічваюць да 10—15 мл.

Пры лячэнні *ультрагукам* мазь уціраецца ў хворае месца.

*Дазіраваныя таблеткі* з пчаліным ядам рассмоктваюцца ў роце або пад языком. Курс лячэння — 25 таблетак, якія ўтрымліваюць яд ад 215 пчол. Адзначым, што прыём унутр пчалінага яду не дае вялікага эфекту, бо пад дзеяннем ферментаў страўніка ён траціць сваю актыўнасць.

*Метад ін'екцый* добры тым, што дазваляе правільна дазіраваць лякарства.

У сучасных умовах жыцця паўстае пытанне: дзе браць прэпараты пчалінага яду? Таму сёння стары спосаб лячэння пчаліным ядам шляхам уджалення застаецца для нас самым даступным.

***Пародыі***

Георгій ЮРЧАНКА

# Дзераўное каханне

*Закружыліся вішні*
*У вяночках вясновых.*
*Слівы, яблыні*
*ў пышных*
*Паркалёвых абновах.*
*Мікола ЯНЧАНКА*

*Чарамховая засень*
*Закалыхвае вёску.*
*Заглядаецца ясень*
*На суседку бярозку.*

*Граб з увагаю ловіць*
*Позірк гулі-асіны.*
*Закахаўся ядловец*
*У дзяўчыну каліну.*

*Чутны клёнавы ўсхліпы:*
*Па ракіце гаруе.*
*Дуб-асілак да ліпы*
*Перабрацца мяркуе.*

*Вяз ад грушы-красуні*
*Воч адвесці не можа.*
*А маліна ля клуні*
*Штось на бэзе варожыць.*

*Дый самому ахвота*
*Пагадаць на лазіцы.*
*Ой, сасонка-турбота,*
*Ой, шыпулькі-іглліцы.*

## *ДА ВЕДАМА СЯБРОЎ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ РАДЫ ТБМ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ*

**18 лістапада г. г. а 18 гадзіне ў канферэнц-зале Дома літаратара (Менск, вул. Фрунзе, 5) адбудзецца пасяджэнне Рэспубліканскай Рады.**
**Даведкі па тэлефонах: 33-25-11, 33-13-52.**

## *Клуб «Спадчына» запрашае*

***20 лістапада г. г. у Доме літаратара адбудзецца вечарына да ўгодкаў Слуцкага паўстання.***
***Вядучы — ганаровы сябра нашага клуба прафесар Анатоль Грыцкевіч. Пачатак а 18 гадзіне.***



**Наш адрас: 220005,** г. Менск, **вул. Румянцава, 13.**
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.
Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.
Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.
МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 7046 паасобнікаў. Зак. 1203. Індэкс 63865.